Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Востра-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.



Год I. Чацьвер, 26 чэрвеня 1919 г. № 29.

## ЗАЛАТЫЯ СНЫ.

Надзеі польскай эндэцыі на тое, што мужыцкая Беларусь кінецца ў ногі яснавяльможнай Польшчы і стане прасіць і маліць аб найхутчэйшым далучэньні яе да Польшчы, не пакідаюць романтычных і прастадушных польскіх палітыкаў, ня гледзячы на тое, што іх залатыя сны аб далучэньні Беларусі да Польшчы жыцьцё разбівае ў шчэнт.

Адбыўшыся нядаўна у Вільні беларускі зьезд прадстаўнікоў Віленшчыны і Горадзеншчыны, зьезд, каторы стварыўся пры варунках, не дапускаўшых якіх-небудзь штучных, злосных для палякоў, падтасовак, як ведама, нічога не сказаў на тэму аб пажаданьні беларусаў быць далучанымі да Польшчы. Наадворот, — беларускія сяляне, *і каталікі і праваслаўныя*, аднагалосна прынялі рэзалюцыю аб стварэньні незалежнай і непадзельнай дзяржавы беларускай; аднагалосна прынялі і рэзалюцыю аб цесным хаўрусе незалежнай Беларусі з незалежнай Літвой; аднагалосна прынялі і яшчэ адну рэзалюцыю—аб прыязных і суседзкіх адносінах да Польшчы.

І ні слова аб... далучэньні. Зазлавала тады эндэцкае сэрца, распалілася гневам на неспадзеўныя для панскай псыхолёгіі *мужыцкія* дамаганьні якой-сь там незалежнасьці і непадзельнасьці і.... «пашла пісаць губэрнія»....

Хутка сазвалі «свой» зьезд у Горадні, потым другі «свой» зьезд у Вільні і.... дабіліся *свайго*. Далучэньне гатова. Беларусі ў Горадзеншчыне і Віленшчыне больш няма, а ёсьць толькі Бела-Польшча, гэтая заморская выдумка паноў эндэкаў.

Усе польскія газэты пратрубілі аб гэтых зьездах на ўвесь сьвет, а аб беларускім зьезьдзе ў Вільні, адбыўшымся 9—10 чэрвеня (юня) ніводным словам не ўспамянула ніводная варшаўская польская газэта.

Мы шчыра шукалі ў варшаўскіх газэтах, жадаючы найсьці хоць адзін радок, навет хоць адно слова аб нашым зьезьдзе, і не знайшлі. І вось цяпер, калі адбыліся ў Горадні і ў Вільні «бела-польскія» зьезды, ў некаторых варшаўскіх газэтах і ў тутэйшым польскім «Нашым краю» замешчаецца такі артыкул:

«У Варшаву прыехала беларуская дэлегацыя, зложаная з паноў Кляўдыя Душэўскага, Івана Луцкевіча і Аляксюка. Дэлегаты прыбылі да начальніка дзяржавы каб ад імяні беларускага народу выказаць афіцыяльнае завярэньне, што народ гэты горача жадае належаць да Польшчы».

Саўсім ўсё ясна.

Што можна адказаць на гэта?

Лепш прачытайце пісьмо пана старшыні Беларускай Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны, замешчанае сёньні ў «Беларускай Думцы». З гэтага пісьма ясна, якая падтасоўка зроблена заметкай дзеля скрыўджаньня добрага імяні некаторых беларускіх дзеячоў і наагул ўсёй беларускай справы. «Маўр» робіць сваю працу. Ен хоча разстроіць нашу справу, сфальчаваўшы і скрыўдзіўшы ў вачах ўсяго сьвета нашых дзеячоў.

Прачытае заметку аб дэлегацыі які-небудзь эн-дэк і падскочыць да неба ад радасьці, што Беларусь «далучылася ужо» да Польшчы.

Прачытае заметку «бела-паляк» і скажа, што Беларусі больш няма. Прачытае расеец, жыд і інш і скажуць, што у гэтай справе ёсьць польская інтрыга. Прачытае аб сваім далучэньні беларус, асабліва яшчэ той, каторы быў на нашым зьезьдзе, і абзаве ўсіх дэлегатоў здраднікамі і урадаўцамі. І пачнуць кожны па-свойму лаяць беларусаў і іх дзеячоў. А заграніца, якая вельмі мала знае аб беларускіх справах і беларуска польскіх адносінах, можа падумаць, што так яно ёсьць, што беларусы хочуць далучыцца да Польшчы.

Аднак, мы не баімося, што нашым ворагам удасца зруйнаваць нашую працу і апаскудзіць добрае імя нашых дзеячоў, каторым ня першы і не апошні раз прыходзіцца чуць аб сабе і чытаць у газэтах байкі-складанкі аб тых ці іншых сваіх кроках, каторыя імі ці саўсім ня робіліся, ці робіліся ня імі і не так, як напісана.

Што-ж можна адказаць польскай эндэцыі, каторай і днём і ўночы сьняцца залатыя сны... аб далучэньні Беларусі да Польшчы.

Дабранач! — скажам мы.

Няхай вам сьняцца залатыя сны яшчэ доўга доўга...

Лук—аш.









### РАДА.

Калі хочаш быць разумным
— то вучыся!
Калі хочаш быць багаты
— не ляніся!
Калі хочаш быць у небе
— то маліся!
Калі хочаш быць няшчасны
— то жаніся
А як хочаш быць магутны
— то ў палякі запішыся.

Рыгор.

тых днях прыехала да Прагі. 26 чэрвеня пасольства выезджае у Парыж.

### Разбраеньне літоуцаў.

Як паведамляе «Віл. Кур.», водле вестак людзей, прыехаўшых з Коўны, немцы выходзяць з Коўны і ў некаторых выпадках робяць пробы разбраіць літоўскія вайскі. У Друскеніках літоўцы і немцы стыкнуліся біцца, бо немцы хацелі вывезьці маемасьць.

## Беларусь.

### Растрэл „бальшавіка".

Як кажуць людзі, што уцяклі з Менску, там і дагэтуль пануе страшэнны тэрор. «Беларуска-літоўскі савецкі урад» не шкадуе навет сваіх сябраўТак,у пачатку гэтага месяца камуністы растрэлілі свайго віднага таварыша Найдзёнкава, каторы быў раней у Смаленску старшынёю «Совнархоза» (Рада народнай гаспадаркі), потым «Комплenбежа» і наагул займаў самыя вялікія пасады і меў вялікую ролю у бальшавіцкай партыі. Цяпер нібыто аказалася, што Найдзёнкаў толькі прыкідаўся камуністам, каб рабіць розныя злачынствы дзеля ўласнай карысьці.

## У ВІЛЬНІ.

### Цана золата і срэбра.

Дзякуючы весткам аб падпісаньні праз немцаў згоды, цана золата і срэбра шмат панізілася. Цана ўпала больш як на палову.

У нашых віленскіх юбілераў цана ў вокнах выстаўлена яшчэ старая, але можам спадзевацца, што ня заўтра—дык пасьлязаўтра цэны залатога рынку прымусяць і іх прычапіць новыя картачкі з цэнамі залатых і срэбных рэчаў.

### Брукі.

Бурмістр загадаў, каб мястовы галўны інжанер пачаў рэпарацыю брукаў у месьце, у першы чарод на гэтакіх вуліцах,

дзе найвялікшы рух, значацца: на Завальнай, Віленскай, Антакольскай, сьв. Юрскай ды інш.

Будзе зроблены рахунак коштаў папраўкі брукаў перад кожным домам, каб пасьля дамаўласьнікі вярнулі ў мястовую касу грошы за гэта.

### Кіраунік аддзелу гандлю.

Магістрат зьвярнуўся да Польскага Прафэсыянальнага Хаўрусу гандлёвых, прамысловых і бюровых працоўнікаў, каб ён з паміж сваіх сяброў выбраў колькі кандыдатаў на становішча кіраўніка аддзелу гандлю пры Магістраце м. Вільні.

### Дармавая лазьня.

Штодзенна адчынена лазьня Кодзя каля Зарэчнага мосту, у якой можна мыцца дарма.

**Прыезджых з Менску, Смаленску і другіх гарадоў Беларусі Рэдакцыя вельмі просіць захадзіць да яе і прынасіць з сабою, калі есьць, газэты, якія там цяпер выходзяць. Рэдакцыя плоціць добрыя грошы.**

### Канфэрэнцыя спраў друку.

Заўчора адбылася ізноў, як і месяц таму назад, канферэнцыя спраў друку. Прадстаўнік польскай улады асабліва жаліўся на востры тон «Беларускай Думкі» і «Głos Litwy». Мэта канферэнцыі знайсьці якое-сь паразуменьне.

### Дровы.

Хто хоча забязьпечыць сябе дравамі на зіму, мусіць запісацца ў Аддзеле—Домініканская, 3, пакой № 200 ад 10—12). Трэба унесьці 250 рублёў.

### Вярнуліся.

З Варшавы вярнуліся старшыня Цэнтральнай Рады Віленшчыны і Гарадзеншчыны п. К. Душэўскі і сябры Рады беларускія дзеячы Я. Станкевіч і П. Аляксюк.

## З УСІХ СТАРОН.

### ПОЛЬСК. САЦЫЯЛ. ПАРТЫЯ.

Галўная Рада Польск. Сац. Партыі, 20 чэрвеня, прыняла колькі рэзалюцыяў, між інш у справе адносін да Літвы і Беларусі. Прамоўцы гаварылі проціў імпэрыялістычных мэтаў земляўласьнікаў і сказалі, што партыя стаіць на гэтакім становішчы, каб жыхары Літвы і Беларусі самі пастанаўлялі аб сваей долі.

У справе палітыкі, якую праводзяць рэакцыйныя чыноўнікі і генералы і ў справе гвалтаў жандармэрыі і паліцыі аднагалосна пастаноўлена вось што:

«Рада, бачучы, што палітыка польскай улады ў занятых частках Літвы і Беларусі часта бывае палітыкай шырокага ўціску, рэквізыцыяў і паліцыйнага зьдзеку, пратэстуець проціў гэтакай дзяяльнасьці і кліча сувязь польскіх сацыялістычных паслоў, каб вялі з гэтым энэргічную барацьбу. Рада пратэстуець проціў агранічэньняў для языкоў пры выбарах да мястовай рады ў Вільні і вымагае ад польскай улады у Літве, каб яна забязьпечыла ўсім нацыянальнасьцям Літвы і Беларусі магчымасьць мець вучасьце ў тымчасовым праўленьні краем ды наагул каб былі даны роўныя правы ўсім гэтым нацыянальнасьцям».

## Ліст у рэдакцыю.

Пабажаны Пане Рэдактару!

Прашу надрукаваць у Вашай газэце ніжэйпісанае:

У варшаўскіх і мясцовых газэтах зьявілася гэткая вестка:

«Прыбыла да Варшавы беларуская дэлягацыя, складзеная з п.п. Кляўдыя Душэўскага, Івана Луцкевіча, і Аляксюка. Дэлегацыя прыбыла да начальніка гаспадарства, каб ад імя беларускага насяленьня зробіць урадовую заяву, што гэтае насяленьне жадае належыць да Польшчы.

Гэтым заяўляем, што гэтая заметка фальчывая. У ніякай беларускай «дэлягацыі» да начальніка польскага гаспадарства або да польскага ўраду мы ўчасьця ня прымалі і ніякіх заяў аб прылучэньні Беларусі да Польшчы ня робілі і робіць ня зьбіраліся.

Усе газэты што надрукавалі заметку просім перадрукаваць гэтую заяву.

*Кляўдыш Душэўскі.*
*Павал Алексюк.*

**Ад рэдакцыі:** Да якога пахабства дайшла цяпер польская жоўтая прэса паказуе тое, што у ліку «дэлягацыі», аб якой пішацца у вышэйпаданым лісьце запісаны і п. Ян Луцкевіч, выехаўшы праз Варшаву да Закапанага. Цяжка хворы, ён за час свайго пабыту ў Варшаве *не ўставаў з ложка.*



**БЕЛАРУСКАЯ РАДА**
памяшчаецца на Востра-Брамскай вул., д. № 9.
Старшыня Рады прымае што дзень, апрача сьвят, ад 1 да 2.
Сэкрэтар прымае у панядзелак, сераду і пятніцу ад 3 да 4.

**БЕЛАРУСЫ!**
Купляйце і пашырайце сваю газэту. Пішэце у сваю газэту.

Рэдактар і выдавец У. Знамяроўскі.

Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стефанаўская, 23.